Гарадская грамадска-палітычная газета

# Бабруйскае жыццё

Выдаецца з лістапада 1918 года

## О СОЗЫВЕ СЕССИИ ГОРОДСКОГО СОВЕТА ДЕПУТАТОВ

**Президиум городского Совета депутатов постановил:**
*созвать очередную 8-ю сессию городского Совета депутатов 23-го созыва 6 сентября 2000 года в 10 часов в зале заседаний горсовета (пл. Ленина, 1).*

**На рассмотрение городского Совета депутатов внести следующие вопросы:**

*О социально-экономическом положении и политической ситуации в городе.*

*Об исполнении бюджета города за первое полугодие 2000 года.*

*О предоставлении льгот по платежам в городской бюджет.*

*Об избрании делегатов на съезд депутатов Советов депутатов Республики Беларусь (Съезд Советов).*

***Предложения в адрес сессии городского Совета депутатов направлять по адресу: площадь Ленина, 1, горсовет или по телефонам 7-86-36, 7-21-54.***

***Президиум городского Совета депутатов.***

№128 (15832) АЎТОРАК, 22 жніўня 2000 года. Цана 25 руб.

## СТЫМУЛУ ЗАСЛУГОЎВАЕ РУПЛІВАЯ І СУМЛЕННАЯ ПРАЦА

*Вяртаемся да надрукаванага*

У нашай газеце за 14 ліпеня г.г.была змешчана заметка "Дворнікі правялі пікетаванне".

З дазволу гарадской улады, заўважалася ў ёй, на стадыёне акцыянернага таварыства "ФанДОК" прайшло пікетаванне, арганізаванае па ініцыятыве дворнікаў Г. Пешка, К. Карнейчык і А. Бокач...

Што ж яны хацелі прадэманстраваць сваёй акцыяй? Гэткім чынам дворнікі, якія выконваюць вялікі аб'ём работы на сваіх участках, вырашылі звярнуць увагу на свае праблемы і найперш – на мізэрныя заробкі.

Ці змянілася што з таго часу? Якія захады прыняло кіраўніцтва гарадскога аб'яднання жыллёва-камунальнай гаспадаркі з гэтае нагоды?

– Так, – адказвае на пастаўленае пытанне начальнік планава-эканамічнага аддзела Антаніна Кагарліцкая, – захады прынятыя. Заробкі дворнікам павялічаны, але не варта думаць, што зроблена гэта было пасля праведзенага пікета. Мы ўвесь час працавалі над вырашэннем дадзенага пытання...

Антаніна Аляксандраўна паказвала мне розныя дакументы, зачытвала вытрымкі з іх. Перагартаўшы іх старонкі, я зразумеў, што праблемай павелічэння заробкаў кіраўніцтва гарадскога аб'яднання жыллёва-камунальнай гаспадаркі займаецца не меней за два гады. І не толькі для дворнікаў, а і для ўсяго калектыву. Бо заробкі як у спецыялістаў адміністрацыйна-кіраўніцкага персаналу, так і ў рабочых, што працуюць на розных падпарадкаваных гарадскому аб'яднанню ЖКГ прадпрыемствах, значна ніжэйшыя, чым, прыкладам, на некаторых гарадскіх вытворчых прадпрыемствах.

Спачатку скажам пра заробкі ў цэлым па гарадскому аб'яднанню: яны за чэрвень склалі 42,3 тысячы рублёў, а інжынерна-кіраўніцкі персанал у сярэднім зарабіў 48,9 тысячы рублёў. А зараз пра заробкі на падпарадкаваных прадпрыемствах. Так, у чэрвені працаўнікі гасцініцы "Бабруйск" зарабілі ў сярэднім 20,3 тысячы рублёў, працаўнікі прадпрыемстваў "Гарсвятло" і па аказанню рытуальных паслуг– 43,9 і 33 тысячы рублёў, тралейбуснага ўпраўлення – 68,3 тысячы рублёў.

Я ўжо адзначаў, што справай павелічэння заробкаў кіраўніцтва гарадскога аб'яднання жыллёва-камунальнай гаспадаркі займалася шмат часу. Звароты ў гарадскі выканаўчы камітэт і гарадскі Савет дэпутатаў знаходзілі падтрымку. Так, згодна з уладнымі рашэннямі заробкі істотна павялічыліся ў тралейбусным упраўленні, аздараўляльна-пабытовай службе і на прадпрыемствах жыллёвай гаспадаркі. На павелічэнне заробкаў усім працаўнікам сістэмы жыллёва-камунальнай гаспадаркі накіравана, у прыватнасці, і рашэнне гарадскога выканаўчага камітэта, зацверджанае 8 жніўня гэтага года.Прадпрыемствам жыллёва-камунальнай гаспадаркі ў кірунку аплаты працы яно дае магчымасць працаваць на падставе пастаноў Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 28 лютага і 16 сакавіка 2000 года.

Гэтыя ўрадавыя дакументы даюць камунальнікам права ажыццяўляць аплату працы згодна з Працоўным Кодэксам Рэспублікі Беларусь і Законам "Аб прадпрыемствах". А гэта ўжо не што іншае, як самастойнасць наконт прыняцця рашэнняў па форме, сістэме і ўмовах аплаты працы. Так, артыкул 43 Закона "Аб прадпрыемствах" дае магчымасць самастойна вызначаць структуру адміністрацыйна-кіраўніцкага персаналу, устанаўліваюць штаты і выдаткі на ўтрыманне.

На падставе калектыўнай дамовы, апроч таго, можна павялічыць стаўку першага разраду, множачы яе на лічбу індэксу спажывецкага кошту. Чэрвеньская індэксацыя, да прыкладу, склала 6,1 працэнта. Узрастаюць адпаведна і іншыя выплаты, якія спрыяюць павелічэнню агульнага заробку.

Напрыканцы зноў вярнуўся да пытання, якое ставілі дворнікі – пра паляпшэнне аплаты працы. Як стала мне вядома, агульны іх заробак павялічыўся на тры тысячы рублёў. Да гэтага яшчэ трэба дадаць тыя грошы, якія будуць даплочвацца за размежаваны рэжым работы ў памеры 50 працэнтаў стаўкі першага разраду. Рашэнне наконт гэтай даплаты, дарэчы, ужо зацверджана. І такім чынам, як мне патлумачылі, заробкі дворнікаў пакрысе будуць расці. Магчыма, знойдуцца іншыя варыянты вырашэння гэтага пытання. І будзе вельмі дарэчы. Маючы стымул у працы, сваю справу яны стануць выконваць больш ахвотна і старанна.

Але ўзнікае пытанне: ці ўсе дворнікі як мае быць рупяцца наконт чысціні двароў і вуліц? Як мне стала вядома, у кіраўніцтва гоырада і кіраўніцтва аб'яднання жыллёва-камунальнай гаспадаркі ёсць шмат нараканняў да дворнікаў, у прыватнасці, да якасці працы. З гэтае нагоды выказвалася думка, што дворнікам варта больш крытычна ставіцца да яе вынікаў. Бо, зразумела, стымулу заслугоўвае толькі руплівая і сумленная праца.

***Леанід КУЛЯВЕЦ.***

## ДЫПЛОМ – ДРУКАРАМ

Гарадскі выканаўчы камітэт падвёў вынікі спаборніцтва сярод працоўных калектываў прадпрыемстваў і арганізацый Бабруйска за першую палову бягучага года. За дасягнутыя высокія паказчыкі ў развіцці прамысловасці сярод прамысловых прадпрыемстваў з колькасцю працуючых менш 500 чалавек пераможцам прызнаны калектыў узбуйненай друкарні імя А. Ц. Непагодзіна, якому прысуджана другое месца.

У мінулую пятніцу непасрэдна ў цэху друкарні сабраліся на сход работнікі прадпрыемства. На ім кіраўнік адміністрацыі Ленінскага раёна нашага горада С. П. Барадаўка ўручыў пераможцам дыплом другой ступені, пажадаў новых працоўных здзяйсненняў, моцнага здароўя, асабістага шчасця. У адказ дырэктар друкарні У. І. Пасько запэўніў прысутных, што калектыў прыкладзе ўсе намаганні, каб да дыпломаў другой ці трэцяй ступеняў далучыць дыплом першай ступені, выйсці пераможцам гарадскога спаборніцтва па выніках бягучага года.

Сёння словы падмацоўваюцца справамі. Так, за сем месяцаў сёлетняга года друкары значна перакрылі даведзенае заданне. Аб'ём вытворчасці ў супастаўляльных цэнах склаў да адпаведнага перыяду мінулага года больш 569 мільёнаў рублёў ці 130,2 працэнта. Створана дадаткова 14 рабочых месцаў, на 238,9 працэнта выканана заданне ў параўнанні з адпаведным перыядам леташняга года па вырабу спажывецкіх тавараў у адпускных дзеючых цэнах. Ажно на 223 працэнты выканана і заданне па аказанню платных паслуг насельніцтву.

***Міхаіл КРЫВЕЦ.***

## <u>По сводкам службы "02"</u>

### БЕСПОЛЕЗНЫЙ РИСК

Днем 16 августа скорой помощью от дома № 28 по ул. Орджоникидзе был доставлен в больницу житель Бобруйска С., который упал с 4-го этажа дома, когда пытался попасть с крыши дома на балкон. От полученных травм, неприходя в сознание, С. скончался.

17 августа шестнадцатилетний учащийся профтехучилища застрял в лифте на седьмом этаже, попытался самовольно выйти и упал в шахту лифта. В результате с тяжелыми травмами машиной скорой помощи доставлен в травматологическое отделение больницы БШК.

### СОБАКА ОБЕЗВРЕЖЕНА

Вечером 14 августа при задержании за мелкое хулиганство А. из его дома выскочила собака, которая набросилась на милиционеров. Для обезвреживания животного было использовано табельное оружие.

### ПОДКИДЫШ РОМКА

18 августа в половине шестого вечера несовершеннолетней Елене В. с просьбой присмотреть за ребенком высокая женщина лет 20-25-ти оставила коляску с годовалым младенцем и за ним не пришла. В коляске находились два пакета с одеждой и питанием. Предположительно малыша зовут Рома.

### МУЖИКИ, РАЗОРУЖАЙТЕСЬ!

В канун Дня авиации,18 августа, бывший авиатор решил добровольно избавиться от небольшого арсенала на дому и добровольно сдал 68 патронов калибра 5.45 к АК-74, 16 девятимиллиметровых патронов к пистолету Макарова и электродетонаторы в количестве 69 штук. Тем самым бывший военный избежал ответственности за незаконное хранение боеприпасов. Арсенал у него оставался еще со времен службы в Советской Армии.

***Подготовил Ю. Архипов***

## ПКБ ПРЫМЕ ЎДЗЕЛ У ВЫБАРАХ ПАРЛАМЕНТУ

Менавіта такое рашэнне прыняў VI (XXXVII) з'езд Партыі камуністаў Беларускай, які адбыўся ў мінулую суботу ў Мінску. І дакладчык – першы сакратар ЦК ПКБ С. І. Капякін, і выступаючыя ад шасці абласных партарганізацый і Мінскага гаркома партыі выказаліся адназначна: ПКБ павінна прыняць удзел у прадстаячых выбарах.

У сваім дакладзе на з'ездзе С. І. Калякін пры разглядзе пытання дня "Аб фармаце ўдзелу Партыі камуністаў Беларускай у выбарах дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь" акцэнтаваў увагу дэлегатаў і запрошаных на партыйны форум на трох відах фармату ўдзелу. Першы – байкот выбараў з боку партыі. Тут ёсць як станоўчыя, так і адмоўныя тэндэнцыі. Сярод станоўчых лідэр нашай партыі адзначыў магчымасць выпрацаваць дакладную, ясную пазіцыю, прызнанне адсутнасці ўмоў для справядлівых і сумленных выбараў. Сярод адмоўных тэндэнцый – калі значная частка выбаршчыкаў прыме ўдзел у выбарах, то адсутнасць у спісках апанентаў улады, толькі узмацніць яе. Адмоўнае і тое, што партыя пры байкоце выбараў не зможа данесці свае ідэі да насельнікаў Беларусі.

На з'ездзе разгледжваўся і другі фармат выбараў – частковы ўдзел у іх (не выстаўляць сваіх кандыдатаў, а толькі ўдзельнічаць у рабоце выбарчых камісій, ажыццяўляць кантроль за ходам правядзення выбараў на ўсіх этапах). Але назіранне і кантроль выбараў маюць сэнс толькі тады, калі ў іх удзельнічаюць апаненты дзеючай улады.

Трэці варыянт фармату – глабальны ўдзел у выбарах парламенту – азначае для партыі важнае: навучыцца ўдзельнічаць у экстрэмальных умовах, весці рашучую барацьбу супраць ідэйных апанентаў і прадстаўнікоў улады. На нас, камуністаў, ускладзеная вялікая адказнасць за правядзенне выбараў. Ад іх вынікаў у многім залежыць будучае краіны. Грамадзяне Беларусі звязваюць з вынікамі выбараў свае надзеі на паляпшэнне дабрабыту, маральна-палітычнай атмасферы, павышэнне міжнароднага аўтарытэту рэспублікі. ПКБ, адзначалася на з'ездзе, будзе імкнуцца зрабіць левацэнтрысцкую большасць у парламенце.

На з'ездзе былі зацверджаны змяненні ў Статут партыі, вылучаны кандыдаты ў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь ад Партыі камуністаў Беларускай па 75 выбарчых акругах.

***Міхаіл КРЫВЕЦ,***
***член бюро гаркома ПКБ,***
***удзельнік работы з'езду.***

## "БЕЛШЫНА" ЗНОЎ БЕЗ "РУЛЯВОГА"

Няўдачнае выступленне нашай футбольнай дружыны як напрыканцы першага, так і напачатку другога круга прымусіла кіраўніцтва футбольнага клуба "Белшына" пайсці на кадравыя перастаноўкі. 15 жніўня быў адпраўлены ў адстаўку галоўны трэнер каманды В. В. Чэцвярык. А таму матч 18 тура, што адбыўся пазаўчора ў Слоніме, наша каманда правяла без свайго рулявога.

Зыход футбольнай баталіі паміж мясцовым "Камунальнікам" і бабруйскай "Белшынай" завяршыўся ўнічыю – 1:1.

У панядзелак, 28 жніўня, "Белшына" правядзе чарговы "хатні" матч. На гэты раз са "Славіяй".

***А. НІКАЛАЕЎ.***




## ЗЯЛЁНЫ НАШ СКАРБ ЗБЕРАЖОМ

*І зноў дзень спякотны, без хмары,*
*Пажухла трава без вады,*
*А ў лесе шугаюць пажары,*
*Як знакі страшэннай бяды.*
*Як порах палае ігліца,*
*Трашчыць у знямозе сасняк,*
*Бы скошаны, падае ніцам*
*Засмяглы лясны маладняк.*
*Дзе сокам вясной частавалі*
*Бярозы ў світальнай расе,*
*Там коціцца – полымя валам*
*У з'едлівай дымнай смузе.*
*Грыбныя дзялянкі чарнеюць*
*І ўгоддзі духмяных суніц,*
*У чадзе і попеле млеюць*
*Звяркі каля душных крыніц...*
*І зараз спрачацца не будзем,*
*І іншых я слоў не знайду:*
*Ва ўсім тут віноўныя людзі –*
*Сабе самі клічуць бяду;*
*Хто кіне ў траву цыгарэту,*
*Запалку не тушыць другі...*
*Здавалася б, дробязі гэта,*
*А гіне наш скарб дарагі!*
*... Да часу якога так будзе! –*
*Пара зразумець нам ужо:*
*Дык будзем жа пільнымі, людзі,*
*Зялёны наш скарб зберажом!*
*Няхай крышталёвыя росы*
*Шторання чаруюць наш край,*
*І лес над ракою Бярозай*
*Шуміць і квітнее няхай!*

**Аляксей ГАРЭЛІК.**

## ЦВЕТЫ НАМ В РАДОСТЬ

*Для всех весна – пора надежд и особых личных переживаний. И, пожалуй, ощущаем ее настоящий приход с появлением первых цветов: подснежников, сон-травы, пролесок, ландышей, но это все за городом. Правда, базар, мини-базары и большинство входов в магазины полны предложений на этот дар природы.*

*И вдруг цветут сады: черемуха, южные культуры – абрикосы, алыча, и далее наши – вишни, яблони, груши. Здесь не только радость созерцания, но и чувство приятного ожидания.*

*А каштаны – долго цветущая культура. Любо в это время пройтись по площади имени Ленина, улицам Социалистической, Минской и другим местам, где растут эти деревья. Нас поособому радует пронзительный запах акации, появление "анютиных глазок" во многих местах города.*

*И, наконец, наступает лето. В городских условиях, где большинство людей живет в многоэтажных домах, и только единицы на своих балконах и около своих домов выращивают цветы – без регулируемого цветонасаждения в парках, скверах, на улицах, около общественных зданий не обойтись. Следует отметить, что в городе в этом направлении сделан значительный шаг. И это утверждение не только актива городского общества охраны природы, но и многих горожан, и наших гостей.*

*Я не буду перечислять подробно, проедьте по главной магистрали города – улице Минской от Еловик. Как оживился разделительный газон в районе комбината БШК "Белшина", когда на нем появились клумбы долгоцветущих тагетисов или, как их в народе называют, золотистых бархатцев. Здесь можно отметить ОАО "Бобруйский кожевенный комбинат", ОАО "Стройтрест № 13", городской Центр гигиены и эпидемиологии, стоматологическую поликлинику, цветник магазина "Квант" и других. Чего нельзя сказать об ОАО "Беларусьрезинотехника", грузовом автокомбинате № 1, домостроительном комбинате, бедновато у гостиницы гидролизного завода, школе-интернате № 2, 18-й школе, пустынны газоны вдоль кладбищ, расположенных на улице Минской. Абсолютно нечем похвалиться двум железнодорожным и автобусному вокзалам, а это одна из визитных карточек города. В шестом и пятом микрорайонах, кроме школ и отдельных домов, – а простор большой, цветов не встретишь.*

*Центральная площадь города, круглая у гостиницы "Бобруйск", парки, скверы города, такие пятачки, как у кинотеатра "Товарищ", ОАО "Красный пищевик", магазина "Фортуна", здания горфинотдела, остановок троллебуса "Стройтрест № 13" и «Завод РТИ», гостиницы "Юбилейная" и многих других местах радуют глаз и успокаивают душу обилием цветов.*

*Заслуга в этом ландшафтного архитектора города И. К. Куталовского, а также директора спецсовхоза "Прибережинский" К. Н. Андреева и его главного агронома Л. М. Савенко. И приятно отметить, что совхоз за достигнутые высокие показатели в развитии коммунального хозяйства по итогам полугодия городским исполнительным комитетом признан победителем соревнования.*

*Клумбы, цветники, партеры, ковровые мозаики, цветочные бордюры – это маленький уютный мир любви и доброты, где человек чувствует себя комфортно, счастливо.*

*В этом плане в городе появилась определенная с разработкой проектов система.*

*На мой взгляд, в первую очередь, руководителям предприятий различной формы собственности, школ, дошкольных учреждений, учебных заведений, учреждений и организаций, а также гражданам надо поддержать эту систему и наш город станет краше и уютнее.*

*А база и специалисты для этого в совхозе имеются. Достаточно сказать, что в этом сезоне совхозом высажено в городе более 700 тысяч цветов 30 наименований на площади 7890 кв. м. Помимо этого 22 предприятия и организации города для своих нужд покупали цветочную рассаду в совхозе: ПУ "Горводоканал", завод ТДиА, детский дом, НПКФ "Славянка", больница скорой медицинской помощи, НО "Бобруйскмебель", завод "Бобруйскагромаш", фабрика художественных изделий и другие. Услугами спецсовхоза "Приберезинский" пользовались семь районных центров и город Гомель. Кстати, Гомель заключил договор на следующий год.*

*Создают цветочное хозяйство совхоза энтузиасты, ветераны производства, начальники участков озеленения и цветоводства А. Б. Наркевич и Г. Ф. Мятликова, прораб А. П. Асташова, старший мастер В. А. Пешко, агроном питомника В. Н. Кравченко.*

*И хотелось бы, чтобы выращенная совхозом цветочная рассада в большем количестве была востребована многопрофильной инфраструктурой нашего города и района.*

**З. УРБАНОВИЧ.**

## ШТО ПАСЕЕШ, ТОЕ І ПАЖНЕШ...

Жыхары дома раздзяліліся на два лагеры. Адны былі "за", а другія "супраць". Асабліва выдзялялася Таццяна Проніна. Яе густы грудны голас перакрываў усіх, і чым больш гаварыла, тым больш раскалялася і здавалася, што ніякая сіла яе не спыніць. Звяртаючыся да рабочых ЖЭКа, якія па чыёйсьці заяўцы прыйшлі ў двор, каб каля дамоў і ў скверы зрэзаць хворыя і некаторыя іншыя дрэвы, крычала:

– Каля дома нельга пакідаць ніводнага дрэва. Яны зацямняюць вокны, з-за іх ніколі не бачна сонца, у некаторых кватэрых па вуглах пайшла сырасць... Ды і сквер патрэбна прарэдзіць, а то ад іх летам, калі пачынаюць пух пускаць, ні дыхнуць, ні прайсці. А колькі восенню лісцяў, смецця? Дворнікі не паспяваюць прыбіраць. Хіба гэта парадак..? – яна паказала на высокія размашыстыя таполі.

– Не, сяброўка, каля свайго пад'езда рабі, што хочаш, а нашых дамоў не чапай. Сквер, тым больш. Не ты іх, таполі, саджала, не табе іх і знішчаць, – выступіла наперад Алена Дарафеева з суседняга дома. – Калі закладвалі сквер, дзе ты была? Адсежвалася дома!? А цяпер, бач, гаспадыняй стала. Хочаш, каб двор пылам зарос, знікла зелень. А дзе дзеці гуляць будуць, чым дыхаць? Калі дрэвы маленькія былі, дык паветра напаўнялася рознымі пахамі шыннай вытворчаці, гарбарнага камбіната, завода гумавых тэхнічных вырабаў. А цяпер, калі яны з небам размаўляюць, дык паветра зусім іншае. Ноччу спіш, быццам пшаніцу прадаўшы. Так што сваю "чорную" справу, Таццянка, зробіш толькі праз мой труп.

Яна ўпёрлася рукамі ў бакі і грозна падступілася да Пронінай, прама паглядзела ёй ў вочы: "Ты зразумела? Не дам – і ўсё..."

Шуму было шмат. Кожны стаяў на сваім і ў канцы канцоў вырашылі, што рабочыя сквера і дрэў каля іншых дамоў чапаць не будуць. Толькі выражуць хворыя і тыя таполі, якія моцна пускаюць пух. А іх у скверы – раз, два і аблічыўся. А вось каля пад'езда Пронінай, што хочуць, няхай і робяць. Тым больш, што з Пронінай былі згодны некаторыя і іншыя яе суседзі.

І яна ўгаварыла рабочых. У лічаныя мінуты дрэвы былі спілаваны, іх хутка раздзелалі. Проніна была на сёмым небе! Гонару яе не было граніцы. Пры сустрэчы не прамінала яхідна заўважыць: "Ну, што? Сырасць вас яшчэ не заела? А ў мяне ў кватэры цяпер столькі сонца, святла, за апошні час хоць неба ўбачыла.

Усё гэта адбывалася вясной.

Аднойчы я з сябрамі сядзеў на лаўцы каля дома. Гаварылі пра жыццё-быццё. І тут да нас, вяртаючыся з магазіна, уся абвешаная авоськамі і сумкамі, падсела Проніна. Яна цяжка дыхала, раз-поразу выцірала з ілба кропелькі поту. Дзень выдаўся гарачым. Быў пачатак лета.

– Ух ты! Чуць дапялася, – цяжка выдыхнула яна. – Калі не пярэчыце, то я тут каля вас крыху адпачну, а то яшчэ на пяты паверх паднімацца трэба. Нават не хочацца кватэру адчыняць. Там такая спякота стаіць, няма чым дыхаць. Адчыняю ўсе вокны, дзверы, а тэмпература не падае. Ноччу парылка, быццам у лазні. Ды яшчэ гэты пыл, сажа з шыннага. Не паспяваю прыбіраць. Раней такога не было.

У адчаі, вызваліўшыся ад авосек, махнула рукой.

– Як вы тут сядзіце на гэтым сонцапёку? Ад яго можна атрымаць цеплавы ўдар. Ці з маім сэрцам!? Не, я лепш перайду ў іншае месца.

Яна хутка сабралася і накіравалася пад цень дрэваў у суседняга пад'езда. Ніхто нічога не сказаў ёй, а ўсе чамусьці накіравалі погляд у аблупіўшыеся перад пад'ездам пянькі, якія засталіся ад калісьці прыгожых дзвюх бярозак і каштана. Вакол іх была выгараўшая трава і праступаючы скрозь яе жоўты пясок. І тут успомніліся народныя прымаўкі: "Не сячы сук, на якім сядзіш", "Што пасееш, тое і пажнеш".

**Васіль КАСЦЯН.**



**Все свободное пространство между домами на ул. 50 лет Октября №№ 30, 32 и Интернациональной, 72 занимало здание склада. Склад разрушен, остались развалины. Детям негде играть. Кто уберет свалку?**

**Л. КАЦНЕЛЬСОН.**

## НОЧЬЮ В ЛЕСУ...

Лес ночью загадочен и зловещ. Деревья, раскачивающиеся на ветру, цепляющиеся ветви кустарников превращаются в сказочных чудовищ. То скрип, то потрескивание, то пронзительный вопль лесных обитателей заполняет душу тревогой и напряжением. Воображение услужливо раскручивает сюжеты с трагическим концом.

Накаркал: мелькнула леденящая нутро мысль. Так и есть. Из-за поворота в упор засветились холодным светом неподвижные волчьи глаза. Куда, куда бежать? Куда спрятаться, залезть? Цепенея от ужаса, замер. Сколько стоял не помню. Ноги налились свинцовой усталостью, отмахнуться нечем: ни камня, ни палки, ни перочинного ножичка. Криком пугнуть что ли?

– А-а-а, – завопил не своим голосом. Светящиеся точки дрогнули. Сделал робко через силу шаг, другой. Тьфу – это же никакой не волк, а светлячок. Нелестно отозвавшись о себе, двинулся дальше. Как вознаграждение, о чудо! На земле лежало огромное бревно, светящееся ровным голубоватым светом. Редкостное, завораживающее зрелище. Отковырнул кусочек дива, чтобы утром поразить знакомых. Однако гнилушка подсохла и свечение прекратилось.

Умеет природа удивить и сохранить свои тайны.

**Л. КАЦНЕЛЬСОН.**

Нелірычны эцюд

## САБАЧЫЯ СЛЁЗЫ

Халодны сакавіцкі дзень хіліўся да захаду. Я вырашыў пайсці да жывёлаводчай фермы, побач з якой быў зернесклад. І там, звычайна, знаходзіўся брыгадзір, адзіны працаздольны мужчына, яшчэ не пенсіянер.

Каля зерняскладa я сустрэў рухомага, сярэдніх гадоў мужчыну, які патрабавальна крычаў праходзячым непадалёку людзям:

– Забівайце яго.

Я азірнуўся і ўбачыў зусім блізка буйнага, з рыжаватым адценнем сабаку, які сядзеў каля плоту. Калі праходзіў міма, я неяк не звярнуў на яго ўвагі.

– Пачакайце! – крыкнуў я і падбег да сабакі. Каля яго ўжо спынілася невялікая група жывёлаводаў.

– Не чапайце! Ён вас разарве, – прагучаў чыйсьці голас. Сабака ўпрошваючымі вачыма, жалабна, як прыгавораны глядзеў на людзей.

І тут я заўважыў тонкае драцянае кальцо, якое ахапляла яго шыю. Кожны яго рух сціскаў драцяной пятлёй шыю, і ён ўжо адчуваў сваю асуджанасць. Бо толькі трэба было пацягнуць за тонкую нітку дроту і ўдаўка гатова.

Я ласкава звярнуўся да ахвяры.

Яго вочы трэба было бачыць!

Разумныя, пранізваючыя цябе наскрозь, патрабуючыя выратавання.

Сабака як бы адчуваў апошнія імгненні жыцця. Я смела падыйшоў да яго і рукой, прыгаворваючы, пагладзіў па галаве...

Па вачах яго пацяклі слёзы. Сабачыя слёзы!

Як можна пазбавіць, вось так жорстка, жыцця жывую істоту. Я пачаў раскручваць вузел вакол шыі, які так дабротна быў зманціраваны мясцовым майстрам-самавучкай – брыгадзірам для знішчэння сабак, якія, па яго словах, перашкаджалі рабоце фермы.

Вузел-кальцо вельмі хутка аддзяліў ад сабакі, які нават не паварушыўся. Але патрэбна было потым бачыць, як у яго вачах і рухах была ўся гама нявыказанай удзячнасці. Адбегшы некалькі метраў, ён азірнуўся на мяне, каб выказаць сваю сабачую ўдзячнасць.

Больш я не падыйшоў да брыгадзіра. На маю думку, ён быў маральным уродам. Затое на душы ў мяне было лёгка, як быццам скінуў велізарны груз.

**Васіль КАТЛЯРЭНКА.**

*Старонку падрыхтавалі Н. ЧУРУН, В. ПІЛІПЕНКА.*

**В МЕЖРАЙОННОМ КОМИТЕТЕ ГОСКОНТРОЛЯ**

# СЭКОНОМИЛИ НА ЖЕЛУДКАХ ДЕТЕЙ

Бобруйским межрайонным КГК Могилевской области за семь месяцев текущего года проведено 93 проверки предприятий и организаций различных форм собственности, и во всех случаях установлены нарушения нормативных актов.

По результатам проверок применены экономические санкции на сумму 41771,8 тысяч, взыскано в доход государства 33571,6 тыс. рублей. За это время было внесено 21 предложение органам государственной власти и управления; привлечено к административной ответственности 185 человек с общим штрафом 2461,25 тыс. рублей, к дисциплинарной – 86 человек; освобождены от занимаемой должности 7 человек; в правоохранительные органы переданы материалы по четырем проверкам; возбуждено 3 уголовных дела; рассмотрено 257 письменных обращений граждан, принято 358 человек.

В "черном" списке значится немало нарушителей и по итогам июльских проверок, в результате которых в доход государства было взыскано 5633,5 тыс. рублей. Привлечено к административной ответственности 13 человек на сумму 400,4 рублей.

Ряд нарушений законодательных актов Республики Беларусь зафиксировано во время проверки АТПОП "Журавинка", за что предприятию были применены экономические санкции на сумму 630,3 тыс. рублей.

Различные финансовые нарушения имели место в ПУ "Бобруйскмежрайгаз" и БОАО "Дорожно-строительный трест № 3" г. Могилева.

В июле были проверены 9 предприятий торговли и общественного питания различных форм собственности, и опятьтаки во всех выявлены различные нарушения. Это наличие товаров без сопроводительных документов, не пробитой через кассовые аппараты выручки, отсутствие санитарных книжек у продавцов, обсчет покупателей, реализация товаров с истекшим сроком, неисправные весоизмерительные приборы и т. д. По результатам проверок предприятий торговли рассматривается вопрос о привлечении к дисциплинарной и административной ответственности 25 человек.

Не остались без внимания сотрудников межрайонного комитета госконтроля и вопросы, связанные с отдыхом и оздоровлением детей. Здесь также не обошлось без нарушений. Так, при проверке столовой детской базы отдыха "Колосок" были выявлены излишки сливочного масла, киселя, бананов, гречневой крупы, сахара, фарша и сока.

## Владимир Иосифович ОВЧИННИКОВ



**17 августа 2000 г. после непродолжительной болезни скончался полковник в отставке Владимир Иосифович Овчинников, первый секретарь Бобруйского горкома Коммунистической партии Белоруссии, председатель Совета ветеранов 5-й гвардейской танковой армии.**

**В. И. Овчинников родился 6 февраля 1924 года в рабочем поселке Заметчино Пензенской области в семье служащего. В 1941 году окончил 9 классов Земетченской средней школы и поступил на работу секретарём в райосовиахим. В феврале 1942 года был призван в Красную Армию и направлен во 2-е Ульяновское танковое училище. С сентября 1943 года по май 1945 участвовал в боях с немецко-фашистскими захватчиками в составе войск Степного и 2-го Украинского фронтов. В послевоенные годы проходил службу на различных офицерских должностях в составе Северной группы советских войск в Германии и в Белорусском военном округе.**

**Полковник В. И. Овчинников прослужил в рядах Советской Армии более 33 лет, из них 15 лет в составе 5-й гвардейской танковой армии. После увольнения из рядов Вооруженных Сил, с января 1976 года и по июнь 2000 года являлся бессменным руководителем музея боевой славы 5-й гвардейской танковой армии, проводил большую работу по военно-патриотическому воспитанию молодёжи.**

**За боевые подвиги в годы Великой Отечественной войны и безупречную службу в Советских Вооруженных силах он награждён двумя орденами Красной Звезды, орденом Отечественной войны и многими правительственными медалями. Память о Владимире Иосифовиче Овчинникове, мужественном командире, хорошем семьянине и верном товарище навсегда останется в наших сердцах.**

***Городской Совет депутатов.***
***Городской исполнительный комитет.***
***Городской совет ветеранов.***

# КОГДА ХОЧЕТСЯ ДЖЕКА ЛОНДОНА ЧИТАТЬ В ПОДЛИННИКЕ...

*Летом в европейских странах можно встретить массу объявлений, предлагающих не только отдых, а и обучение в это время. Во всевозможных летних школах, академиях предоставляется возможность изучать иностранные языки с носителями языка, обучаться танцу у профессионалов, углублённо изучать Шекспира на его родине, постигать тайны французской кухни в Париже и приобщаться к искусству в одном из старейших замков Словакии.*

*Приятно отметить, что уже и молодёжь из нашей республики имеет возможность участвовать в отдыхе такого уровня.*

*Белорусская Ассоциация клубов ЮНЕСКО, которую возглавляет Александр Каранкевич, не первый год направляет детей в лингвистические лагеря в нашей республике и за рубежом. В этом году 70 человек были направлены в Венгрию, Румынию и Польшу. Обязательное условие – изучение английского языка не менее года. Реализация проекта "Мосты образования" осуществляется при поддержке Министерства образования Республики Беларусь. Английский язык становится реальным мостом взаимопонимания и дружбы между молодежью из Беларуси и других стран, что в свою очередь способствует разрушению стереотипов и установлению контактов между народами.*

*Преподавание в лагере осуществляют американские учителя, прошедшие специальную подготовку по обучению английскому языку как иностранному. Языковые занятия проходят 5 раз в неделю.*

*Небольшой польский городок Тухола в северо-западной части Польши приобретает известность как место проведения лингвистического лагеря. Вот и летом этого года здесь встретились более ста учащихся в возрасте 12-15 лет, 10 из них – представители Беларуси.*

*Клуб ЮНЕСКО, успешно работающий при Бобруйской городской образцовой детско-юношеской изостудии "Радуга", успешно представляла в этом лагере Настя Куприянова, учащаяся СШ № 14. Первую встречу с учителем, американцем, учащиеся лагеря г. Тухола ждали с большим волнением. У мистера Скотта три правила: говорить по-английски, улыбаться и дружить друг с другом. Он им следовал неукоснительно и контакт с аудиторией был налажен быстро. Последующие уроки продолжительностью в 42 минуты и преподаватели, сменяющие друг друга, были не менее интересны.*

*В этом лагере всё было подчинено изучению английского языка. Даже при организации свободного времени, когда предлагалось заняться макраме, настольным теннисом, компьютерными играми или отправиться на экскурсию в Торунь, Гданьск, на Балтийское море, – языком общения был английский.*

*Стимулировало неформальное общение с американцами, которых в лагере было 15 человек, наличие у них билетов, которые можно было получить после разговора и использовать во время сувенирного аукциона.*

*Здесь можно было выиграть разные вещи: от мягких игрушек и художественных книг на английском языке до футболок и "летающих тарелок".*

*Теперь, когда дни, проведённые в лагере, остались далеко позади, глядя на сертификат с фотографией, свидетельствующий об успешном участии в школе, сувениры, выигранные на аукционе, Настя хочется читать Джека Лондона в подлиннике и снова поехать в лингвистический лагерь.*

*Участие в таких лагерях платное. Стоимость путевки дифференцирована. Полная стоимость путёвки составляет 300 долларов США. А льготная – 20 долларов. Право на льготную оплату имеют семьи с низким достатком, дети-сироты, дети из неблагополучных семей. Проезд оплачивается дополнительно.*

*Нелегко пришлось Настиной маме, инвалиду 2-й группы, заплатить за эту путевку вместе с проездом. Обращалась в администрацию БШК "БЕЛШИНА", где работала до ухода на пенсию, с официальным письмом от администрации Первомайского района и клуба ЮНЕСКО "Радуга", однако помощь не получила.*

*Предприятие, которое тратит деньги на образование, не выбрасывает их на ветер. Это проверено жизнью. Предприятие, которое хочет иметь в своем штате классных специалистов, думает об этом заранее.*

***Л. БИДЮК.***

# Н. Ф. КАСАТКИН: «УДАЧА ОТ НАС ОТВЕРНУЛАСЬ – ОКАЗАЛИСЬ ВТОРЫМИ»

О женском футбольном клубе "Бобруйчанка" написано уже немало. Его история началась еще в 91-м году, когда Э. А. Геурков, бывший директором арендного предприятия "Бобруйсктрикотаж", предложил организовать там футбольную команду из представительниц "слабого пола". Тренером "Трикотажницы" по рекомендации И. Г. Шишкевича, в то время председателя ВДФСО профсоюзов города, стал Н. Ф. Касаткин. К нему я и обратилась с вопросом о нынешних успехах клуба.

– Сегодня бывшая "Трикотажница" – современная "Бобруйчанка" – лучшая команда по женскому футболу в Беларуси. Практически вся сборная республики по этому виду спорта состоит из наших девушек.

Недавно мы участвовали в отборочных играх чемпионата Европы. Но удача от нас отвернулась — в своей группе из 5 команд оказались вторыми, уступив в упорной борьбе румынкам – более опытным игрокам.

**– Николай Федорович, в чем причина?**

– Второе место получили автоматически, и последняя игра с командой Словении, которая победила нас со счетом 6:1, ни на что не влияла. Однако специально никто проигрывать не собирался. Просто наши футболистки очень расстроились из-за проигрыша в своей группе – все надежды были на первое место.

Тем не менее, наше второе место – наивысший успех за все шесть лет существования сборной Беларуси.

**– А Молодежные игры? Ведь там вы тоже победили. С каким результатом?**

– Наши девушки забили 20 мячей, не пропустив ни одного.

**– Сейчас идет 9-й чемпионат Беларуси по женскому футболу.**

– Совершенно верно. Сыграно уже 6 матчей, в каждом из которых "Бобруйчанка" была первой (забит 41 мяч – 1 пропущен).

**– Отдыхать думаете?**

– Конечно. После этого чемпионата планируем набраться сил и начать активную подготовку к новому сезону - в будущем предстоят отборочные игры чемпионата мира и Кубок европейских чемпионов, на который "Бобруйчанка" возлагает большие надежды – победа в нем принесла бы клубу решение многих финансовых проблем.

Наши футболистки настроены очень решительно и надеются в скором времени оправдать все надежды своих болельщиков. Спасибо всем, кто внимательно следит за нашими успехами и неудачами. Нам очень нужна ваша поддержка.

– Успехов вам!

***Марина САКАДЫНЕЦ.***

**P. S.** *Футбольный клуб "Бобруйчанка" искренне поздравляет с Днем рождения директора ОАО "Бобруйский кожевенный комбинат" Михаила Ивановича Кунца – его нынешнего президента и желает ему здоровья, оптимизма и удачи.*

**Советы психолога**

# БЕРЕГИТЕ СЕРДЦЕ ОТ НЕНАВИСТИ...

Психологическое здоровье включает в себя состояние гармонии с миром и является основой человеческой жизни. Известно, что большинство болезней от чувства вины, несостоятельности, нарушения функционирования нравственных норм. Эмоциональные расстройства провоцируют физиологические изменения, что ведет к нарушению различных систем организма. Достаточно вспомнить болезни, вызванные стрессом: гипертония, мигрень, аллергия, язвы, запоры, колиты, менструальные осложнения, диабет, псориаз, депрессия, чтобы понять всю серьезность проблемы.

Мы живем в очень трудное время. Оснований для отрицательных эмоций у нас, вроде бы, более, чем достаточно. Угнетает постоянная нехватка денег, времени и сил, одолевают болезни. Сегодня человек, поставленный в условия выживания, переживает стрессы по несколько раз в день.

Слово "стресс" в переводе с английского означает напряжение. Чувство напряжения возникает всякий раз, когда нас критикуют, ругают, когда появляется серьезная жизненная проблема. Стресс вызывается любой ситуацией, приносящей душевный дискомфорт. Эти ситуации могут быть самые разные: вам "случайно" наступили на ногу, незаслуженно предъявил претензии начальник, внезапно возникла ссора в семье. Может показаться, что человек вскоре забыл о событии, но полученная "отрицательная энергия" незаметно подтачивает его организм.

В болезни человека есть немалая доля его вины. Человек несет ответственность за свое здоровье. Еще Гегель выразил это положение вещей следующей формулой: "Невинного страдания не бывает, страдание всегда есть вина". Наша вина – в игнорировании нами нравственных основ жизни.

Большинству из нас трудно признаться себе в том, что мы страдаем от таких вещей, которые для других являются ежедневной реальностью. Мы отказываемся понять, что чувствуем себя в напряжении, тогда как другие в тех же условиях полны радости и энергии. Поэтому главное – научиться справляться со своим индивидуальным стрессовым состоянием. Для этого прежде всего нужно определить, что постоянно или периодами приводит вас к такому состоянию. Выберите стрессоры, которые явно довлеют над вами (нехватка времени, монотонность труда, вынужденная бездеятельность, ощущение своей бесполезности, плохое самочувствие, неблагоприятная ситуация на работе или дома и т. д.). Разделите выбранные стрессоры на три группы: те, что можете устранить сами, те, что можете ослабить и те, что вне вашей воли. Продумайте как можно устранить первые, ослабить вторые и как поступить с третьими.

Не стоит зацикливаться на прошлом. Лучше сосредоточиться на настоящем. Новое дело начинайте без страха, иначе оно покажется более трудным, чем есть на самом деле. Ставьте перед собой разрешимые задачи. Отмечайте успех. Намечайте реальные сроки завершения работы. Не прибегайте к наркотикам или постоянной поддержке других людей при решении своих проблем. Отвечайте за свои действия сами. Не играйте в игру "Поиск виновного". Включайте в режим дня утреннюю зарядку, дыхательную и лицевую гимнастику. Не забывайте об осанке. Сутулый человек, втягивающий голову в плечи, переживает неуверенность, депрессию, тревогу. Расправьте плечи, сделайте прямым и открытым взгляд. Движения должны быть уверенными, голос – приятным другим.

Выполняйте хотя бы часть этих рекомендаций ежедневно, научитесь делать их автоматически, так, чтобы не допускать напряжения в организме. И выполняйте три правила: 1. Спросите себя: "Что будет в худшем случае?". 2. Приготовьтесь принять это как неизбежное. 3. Спокойно продумайте, как изменить ситуацию.

Одна моя пациентка сказала, что она каждый день учится быть счастливой, чтобы это вошло у нее в привычку. Привычка быть счастливым вырабатывается, даже если просто чаще думать о хорошем. Отгоняйте неприятные мысли, переберите в уме приятные события, которые должны быть днем.

Норман Пил предлагает свой путь к счастью: берегите сердце от ненависти, а разум от беспокойства. Живите просто, ожидайте малого, отдавайте многое. Наполните жизнь любовью. Поступайте с другими так, как хотели бы, чтобы поступали с вами. Не дайте гневу прочно поселиться в вашей душе. Удивительные результаты появляются уже через неделю. Удачи Вам!

***О. ЛОГВИНЕНКО,***
***психолог городского Центра здоровья.***

# СТАРЫ БУДЫНАК ПАМАЛАДЗЕЕ

Непрывабныя фасады блізнят-"хрушчовак" яўна прайграюць цагляным дамам старадаўняй мураўкі, якіх шмат у нашым горадзе. Будавалі іх калісьці невядомыя майстры паводле праектаў таленавітых архітэктараў. І зараз бачна, што мураўка сцен і фасадаў рабілася своеасабліва, што падкрэслівае знешні выгляд і індывідуальнасць старых будынкаў. Але ж час ідзе, будыніны старэюць і разбураюцца. І вось тут якраз і з'яўляюцца людзі, якія ведаюць у гэтым толк, і ратуюць іх.

Сёння свайго часу, у прыватнасці, дачакаўся будынак былога аўтатранспартнага тэхнікума, які месціцца на скрыжаванні вуліц К. Маркса і Савецкай. Аднаўленчыя работы вядзе будаўнічая арганізацыя з назвай "Будсервіс", якой кіруе дырэктар Аляксандр Сідарэнка.

– Гэты будынак – не першы ў нашай практыцы, – заўважае Аляксандр Іванавіч. – Выконваючы аднаўленчыя работы, стараемся захаваць асаблівасці архітэктуры будынкаў, якія ўяўляюць гістарычную каштоўнасць.

Пройдзе час, і стары будынак памаладзее і, як у ранейшыя гады, будзе ўпрыгожваць гістарычны цэнтр Бабруйска. А пакуль што будаўнікі-рамонтнікі Валянціна Кісялёва, Вольга Ганчарова, Святлана Трушчанка, Леанід Пазднякі дзіншыя рупліца на яго аднаўленні.

***Леў КАЦНЕЛЬСОН,***
***няштатны карэспандэнт "Бабруйскага жыцця".***

